# БЕЛАРУС НА ЧУЖЫНЕ

BELARUSIAN ABROAD
BIEŁARUS NA ČUŽYNIE

Беларускі штомесячнік ў Лёндане. Заснаваны ў 1947 г. Адноўлены ў 2009 г.

красавік 2010 №5 (47)

## НАВІНЫ



**6 красавіка 2010 года споўнілася 100 гадоў з дня нараджэньня Барыса Кіта, выбітнага дзеяча беларускай дыяспары, навукоўца і настаўніка. Віншуем!**

### Адчыніўся Беларускі дом

Пасьля рамонту зноў адчынілася заля паседжаньняў Згуртаваньня беларусаў Вялікай Брытаніі.

Заля знаходзіцца ў легендарным Беларускім доме на Пэн Роўд (паўночная частка Лондана), які быў першым домам, які беларуская дыяспара набыла для сваіх патрэбаў у 1948 годзе. Будынак быў першай афіцыйнай уласнасьцю беларускай дыяспары ў Заходнім сьвеце, у ім знаходзілася рэдакцыя «Беларуса на чужыне», а таксама жылі беларускія імігранты.

Асьвячэньне правёў грэка-каталіцкі сьвятар айцец Сяргей Стасевіч.

Мерапрыемства наведалі шматлікія госьці з арганізацый беларускай дыяспары ў розных краінах, у тым ліку старшыня Рады БНР Івонка Сурвілла.

Сярод гасьцей былі былы амбасадар Вялікабрытаніі ў Беларусі Браян Бэнэт і брытанскі беларусіст Джым Дынглі.
На мерапрыемстве адбылася прэзэнтацыя кнігі Натальлі Гардзіенкі «Беларусы ў Вялікабрытаніі».

Фотаздымкі зь мерапрыемства:
http://tinyurl.com/256g9n3

### Выйшла кніга Н. Гардзіенкі «Беларусы ў Вялікабрытаніі»

У выданні разглядаецца гісторыя беларуска-брытанскіх кантактаў, шляхі і матывы прыезду нараджэнцаў беларускіх земляў у Вялікабрытанію. Найбольшая ўвага надаецца дзейнасці пасляваеннай хвалі беларускай іміграцыі ў гэтай краіне. Падрабязна разглядаецца гісторыя асобных арганізацый беларусаў: Згуртавання беларусаў у Вялікабрытаніі, ХАБР Англа-беларускага таварыства, Беларускай бібліятэкі імя Ф. Скарыны і іншых.
Адмысловая ўвага надаецца рэлігійнаму жыццю беларусаў, гісторыі асобных праваслаўных парафій, дзейнасці Беларускай каталіцкай місіі ўсходняга абраду. «Беларусы ў Вялікабрытаніі» — першая агульная даследчая праца, прысвечаная розным аспектам беларускай прысутнасці ў гэтай краіне.

### Пайшоў з жыцьця айцец Кастусь Маскалік

12 красавіка 2010 года ў Лондане на 92-м годзе жыцьця памёр беларускі грэка-каталіцкі сьвятар Канстантын Маскалік, які у розныя пэрыяды свайго доўгага жыцьця жыў на Беларускай Каталіцкай місіі. Апошнія 10 гадоў ён знаходзіўся ў доме для састарэлых. Адпяваньне прайшло 20 красавіка ў капліцы на Холдэн Роўд, а пахаваньне на могілках Сьвятога Панкрата побач з магіламі іншых сьвятароў місіі. У жалобнай падзеі прыняла ўдзел пераабраная днём раней Прэзідэнт Рады БНР Івонка Сурвілла. Вечная памяць!

## АНОНСЫ ПАДЗЕЯЎ

### Айцец Аляксандар Надсан у Менску

Калі: 23/04/2010, 19:00

Дзе: Менск, Клюб грэка-каталіцкай інтэлігенцыі імя сьвятога Кірылы Тураўскага, вул. Арджанікідзэ, 6.

Напярэдадні гадавіны Чарнобыльскай катастрофы ў Беларусь прыяжджае Апостальскі візытатар для беларусаў замежжа, айцец Аляксандр Надсан. 23 красавіка адбудзецца сустрэча зь ім.

## АБВЕСТКІ

### Беларускія набажэнствы

Беларускія грэка-каталіцкія набажэнствы адбываюцца ў Беларускім рэлігійна-культурны ў нядзелю – а 10:30 раніцы і штодня а 8:00 і 18:00. Па заканчэньні нядзельнага набажэнства – невялікае беларускае чаепіцьце. Усе жадаючыя сардэчна запрашаюцца.

Беларускія праваслаўныя набажэнствы адбываюцца па папярэдняй дамоўленасьці па адрасе Holy Innocents' Church, Paddenswick Road, London W6 0UB (м. Ravenscourt Park). Кантакт: 020 76099982 (сп-ня Алена Сенька).

Рэгулярныя набажэнствы Ўкраінскае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы ў Вялікай Брытаніі адбываюцца ў Катэдральным саборы Перамяненьня, 1а Newton Ave, Acton, London W3 8AJ. Тэл. 020 899 246 89, (протаярэй Яўген Стасюк, uaocingb@hotmail.com )

### Шукаецца рэгент для беларускага хору

Існуе ініцыятыва з прыкладна шасьці чалавек стварыць у Лёндане беларускі хор. Шукаем адзінадумцаў і чалавека з музычнай адукацыяй, які мог бы быць кіраўніком хору. Просім кантактаваць з рэдакцыяй **БНЧ**.

## КАРЫСНЫЯ РЭСУРСЫ

belarusians.co.uk – "Беларусы ў Вялікабрытаніі", інфармацыйны блёг

skaryna.org - Беларуская бібліятэка імя Францішка Скарыны ў Лёндане

pubb.org.uk – Прафэсійная унія беларусаў Брытаніі

ukbel.co.uk - Англа-беларускае таварыства

groups.google.com/group/Belondon - Рассылка для беларусаў у Лёндане

community.livejournal.com/belorusy_uk - Суполка брытанскіх беларусаў у ЖЖ

belarusdigest.com - Belarus Digest, дайджэст беларускіх навінаў у міжнароднай прэсе, вядзецца беларусамі зь Лёндану і ЗША

Суполкі на Facebook: *Anglo-Belarusian Society, Belarusians in the UK*

Суполка на Вконтакте.ru: *Belarusians in the UK ‡ Беларусы ў Вялікабрытаніі* (vkontakte.ru/club14078415 )

**РЭДАКЦЫЯ**
Алесь Чайчыц
Яраслаў Крывой
а. Сяргей Стасевіч
bnc@bielar.us

Ілюстрацыя: карціна Уладзіміра Мельнікава «Акадэмік Барыс Кіт»